Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 беспрацоўных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Серада, 16 ліпня 1919 г. № 46.

# ГРАНІЦЫ.

Пытаньне аб граніцах паміж аддзельнымі народамі, жадаючымі жыць ў сваіх асобных гасударствах, яўляецца адным з цяжэйшых для выражэньня пытаньняў. Калі-б народам, жывучым на зямном шары, ўдалося разьвязаць гэтае пытаньне, то хто яго ведае, быць можа настаў-бы на зямлі мір, прыйшло-б к нам Царства Божае на зямлі, як кажуць адны, ці запанаваў бы інтэрнацыянал, як кажуць другія.

Вядома, што ня толькі ад разьвязаньня пытаньня аб граніцах паміж народамі залежыць мір на зямлі, але ўсё-ж ня можна ня прызнаць, што несправядлівыя граніцы паміж аддзельнымі гасударствамі, часта раздзіраўшыя адзіны народ на кавалкі, былі прычынай войнаў паміж суседзямі, альбо давалі магчымасьць народу дужэйшаму уціскаць слабейшага.

Возьмем, напрыклад, Балканскі паўостраў. Скольні было на нашых вачах войнаў паміж балканскімі народамі з-за пагранічных спраў. Грэцыя, Баўгарыя, Сэрбія, Румынія, Турцыя, Італія — да апошняга часу ніяк ня могуць прыйсьці да саглашэньня па пытаньню аб граніцах.

Толькі што скончыўшаяся вайна паміж народамі ўсяго сьвету таксама была вызвана жаданьнем абедзьвых ваяваўшых старон пашырыць так званыя сфэры свайго эканамічнага і палітычнага ўпліяньня на большыя тэрыторыі, а таксама і справіць сваі граніцы як найвыгадней для сябе і невыгадней для свайго варожага суседа.

Такім чынам, мы бачым, што ад тых ці іншых граніц паміж гасударствамі залежыць вельмі многае, залежыць магчымасьць разрашэньня аднэй з важнейшых праблем чалавецства, гэта—устанаўленьня міра паміж народамі ўсяго сьвета. Мы ўжо казалі адзін раз, што мір на зямлі стане больш магчымым, калі ў жыцьцё пройдзе прынцып самаазначэньня народаў, калі ніхто ня будзе нікога ўціскаць і кожны народ атрымае магчымасьць жыць у сваім незалежным і непадзельным гасударстве.

Ясна, што ў гэтым пытаньні граніца іграюць вялікую ролю. Калі ад адзінага народу адарваць хоць невялічкую яго частку і далучыць яе да суседа, то цэлы народ будзе гэтым нездаволен і павядзе палітыку, каб далучыць адарваную частку да сябе. Возьмем напрыклад Эльзас-Лётарынгію. Францыя праз увесь час пасьля таго, як немцы адабралі ад яе Эльзас-Лётарынгію, не супакоілася і вела такую палітыку, каб вернуць адабранае ізноў, і, як мы бачым, вярнула Эльзас-Лётарынгскія землі пасьля толькі што скончыўшайся вайны.

Калі мы пяройдзям да пытаньня аб граніцах Беларусі, то адразу-ж убачым, як трудна беларускаму народу устанавіць сваі граніцы. Усе суседзі беларусаў: палякі, літоўцы, расейцы, украінцы—усе яны хочуць валадаць часьцінамі тэрыторыі, каторую заселяюць беларусы. Беларусь «кепска ляжыць».

Беларусь разбурана вайной. Беларусь не арганізавала сваёй збройнай сілы

На Беларусі «той капрал, хто палку ўзяў».

Але не заўседы так будзе. Пройдзе час і Беларусь з'арганізуецца.

Адразу нічога не бывае. Усякі народ прыйходзіць да нацыянальнай сьвядомасьці потроху. Так было з сэрбамі, баўгарамі, чэхамі і ўсімі іншымі народамі, знайходзіўшымися пад тым ці іншым уціскам. Праца лепшых людзей над адраджэньням сваіх народоў не прапала дарма. Тое, што яны рабілі дзеля свайго народу дало сваі рэзультаты і ў пытаньню аб граніцах. Цяпер зрэалізоўваецца іх праца, безкроўная і мірная.

I мы верым, што праца лепшых сыноў Беларусі над адраджэньнем сваёй бацькаўшчыны, пачаўшаяся ня вельмі даўно, дасьць добрыя рэзультаты ў самым скорым часе, не гледзючы на папыткі суседзяў захапіць Беларусь ці цалком ці па часьцям ў сваі рукі.

Мы, беларусы, моцныя тым, што нашы вызваленыя з няволі родныя браты добра умацаваліся і адбудавалі сваі гасударства ў пэўных нацыянальных граніцах. Яны не дапусьцяць, каб нас разабралі па часьцям, яны памогуць нам устанавіць нашы праўдзівыя нацыянальныя граніцы з суседзямі, што-б там ні рабілі ў сучасны мамэнт «халіфы на час».

**Гарро.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Літоўскага Генеральнага Штабу.

*9 ліпня.*

Паміма ўсялякіх нашых стараньняў, каб жыць у згодзе з нашымі суседзямі, палякі перайшлі устаноўленую Антантаю, дэмаркацыйную лінію і пасунуліся ў глыб літоўскай зямлі ў кірунку Езна — Жыжморы—Еўе—Казакішкі, у некалькіх месцах палякі нападалі на нашы вартаўнічыя аддзелы дэмаркацыйнай лініі.

Нашы браты, якія старанна умаўлялі нас, каб мы пазбыліся нямецкіх акупантаў і пачалі пертрактацыю, цяпер змушаюць нас да новай вайны, у такім цяжкім часе, калі і нам і ім пагражаў супольны вораг, калі мы толькі што пачалі самадзельнае жыцьцё з чыстым сумленьнем, з ціжарам на душы, але з аружжам у руках армія наша сустрачае новага ворага, сьвята абецаючы біцца да апошняй кроплі крыві ў абарону бацькаўшчыны, тым больш што ў кожнай хаце непрыяцель знойдзе свайго пераконанага супраціўніка—селяніна.

7 ліпня, каля ваколіцы Жыжмор легіяністы заатакавалі наш пярэдні аддзел. Стычка была 10 мінут.

Польскі аддзел заняў Высокія Ягелоны і прабуе акружыць нашыя аддзелы.

Сяньня палякі абстрэліваюць нашу дэмаркацыйную варту.

У Казакішках палякі акружылі наш патруль, але пасьля бойкі павінны былі адыйсьці. Мы патрацілі 2 раненых.

